Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 53 (5384)
Аўторак, 30 красавіка 2002 года

Рэформа школы

## Скаардынаваць дзейнасць кіруючай вертыкалі

**26-27 красавіка ў Мінскім Палацы дзяцей і моладзі адбылася рэспубліканская нарада кіраўнікоў упраўленняў і аддзелаў адукацыі абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў**


Фота Юрыя БОНДАРАВА.

Адкрываючы нараду, на пленарным пасяджанні першы намеснік Міністра адукацыі краіны Аляксандр Іванавіч Жук заклікаў яе ўдзельнікаў да канструктыўнага дыялогу, каб агульнымі намаганнямі вызначыць шляхі вырашэння праблем, якія сёння маюць месца ў нацыянальнай сістэме адукацыі. Нам трэба скаардынаваць дзейнасць усёй вертыкалі такім чынам, падкрэсліў ён, каб ужо ў бліжэйшы час мы змаглі значна павысіць якасць адукацыі і выхавання моладзі.

А.І.Жук выступіў з дакладам на тэму "Аб першачарговых мерах па ўдасканаленні школьнай адукацыі", якая, уласна кажучы, і стала скразной ідэяй – праграмай, прадметам размовы на нарадзе.

– Задача фарміравання адукаванага, выхаванага і здаровага чалавека – важнейшы прыярытэт нашай дзяржавы, – падкрэсліў ва ўступным слове А.І.Жук. – І адна з асноўных роляў, калі не галоўная, у вырашэнні гэтай задачы належыць школе.

На пленарным пасяджэнні з дакладам на тэму "Аб змесце выхаваўчай работы ў сучасных умовах" выступіла таксама намеснік Міністра адукацыі Т.М.Кавалёва. Намеснік старшыні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта Л.А.Цупрык пазнаёміў удзельнікаў нарады з вопытам работы ўстаноў адукацыі Брэсцкай вобласці ва ўмовах пяцідзённага вучэбнага тыдня. Аб ролі аддзела адукацыі ў забеспячэнні дзейнасці адукацыйных установаў раёна гаварыла загадчыца аддзела адукацыі Мінскага райвыканкама Л.Е.Трафімчык.

Нарматыўнае і вучэбна-метадычнае забеспячэнне вучэбнага працэсу і змест і метады арганізацыі выхаваўчай і фізкультурна-аздараўленчай работы ў школе – гэта асноўны блок праблем, якія абмяркоўваліся на секцыях.

Секцыі былі сфарміраваны такім чынам, каб у кожнай з іх прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх абласцей. Удзельнікі нарады такім чынам абмеркавалі тры блокі праблем, у тым ліку і асабліва актуальныя на сёння пытанні. У прыватнасці, размова ішла пра асаблівасці арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ў агульнаадукацыйных навучальных установах ва ўмовах пяцідзённага вучэбнага і шасцідзённага школьнага тыдня, пра арганізацыю кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў школах ва ўмовах пераходу на 10-бальную сістэму ацэньвання ведаў вучняў, пра ацэнку якасці работы навучальнай установы, раённага (гарадскога) аддзела, гарадскога, абласнога ўпраўлення (камітэта) адукацыі і г.д.

У другі дзень нарады былі абмеркаваны праблемы фінансава-эканамічнай дзейнасці ўстаноў адукацыі. На шматлікія пытанні ўдзельнікаў нарады адказала начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльна-эканамічнага развіцця Міністэрства адукацыі Л.І.Субоцкая.

Больш падрабязную інфармацыю пра тое, як праходзіла нарада, і пра работу секцый чытайце ў бліжэйшых нумарах нашай газеты.

**Святлана БЕНЬ.**

НА ЗДЫМКУ: выступае намеснік Міністра адукацыі Т.М.Кавалёва.

*Майстэрства навучання ёсць майстэрства абуджаць у юных душах цікаўнасць і затым задавальняць яе.*

**А.Франс.**

***У Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы БДУ адбылася прэзентацыя зборніка матэрыялаў Міжнароднага семінара "Адукацыя для ўсіх - Дакарскія рамкі дзеяння на Беларусі", што прайшоў тут у студзені гэтага года і быў арганізаваны Нацыянальнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА і кафедрай ЮНЕСКА "Культуры свету і дэмакратыі" РІВШ БДУ.***

## Адукацыя для ўсіх: кропка адліку

Як вядома, на гэтым семінары абмяркоўваліся рашэнні Сусветнага форуму па адукацыі, што адбыўся ў 2000 годзе ў Дакары (Сенегал), а таксама шляхі іх рэалізацыі ў нашай краіне. Сам жа форум стаў кульмінацыйнай падзеяй дзесяцігоддзя адукацыі, абвешчанага арганізацыяй ЮНЕСКА з 1990 года па 2000. Згодна з дасягнутымі на ім дамоўленасцямі цяпер у нас створаны нацыянальны план дзеянняў. Паводле слоў Ігара Ганчаронка, загадчыка кафедры ЮНЕСКА "Культуры свету і дэмакратыі" РІВШ БДУ, план – гэта, па сутнасці, кропка адліку ў рэалізацыі на Беларусі праграмы ЮНЕСКА "Адукацыя для ўсіх".

Нацыянальны план дзеянняў змешчаны ў прэзентаванай на днях кнізе. Таксама тут апублікаваны даклады выступоўцаў семінара: А.І.Жука – першага намесніка Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь; І.В.Катлярова – старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, навуцы, культуры і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь; В.І.Стражава – рэктара Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы БДУ; С.С.Вятохіна – прарэктара Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы БДУ і многіх іншых. Канешне, у зборнік увайшлі не ўсе даклады, а толькі самыя грунтоўныя, і ўсе яны разам адлюстроўваюць сістэмнае бачанне праблемы адукацыі для ўсіх з улікам яе нацыянальных, беларускіх асаблівасцей. Матэрыялы гэтыя ўтрымліваюць не толькі шмат каштоўных думак і цікавых ідэй, якія пойдуць на карысць прадстаўнікам айчыннага адукацыйнага асяроддзя, але і шэраг прапаноў у адрас нашых заканадаўцаў.

Дарэчы, прэзентацыя кнігі была прымеркавана да тыдня адукацыі для ўсіх, абвешчанага ЮНЕСКА ў Беларусі з 22 па 26 красавіка. Такую акцыю мяркуецца праводзіць штогод ва ўсіх краінах, што далучыліся да гэтай міжнароднай арганізацыі, з мэтай ацэнкі стану нацыянальных сістэм адукацыі.

– Прыемна, што ў плане ўзроўню адукацыі наша краіна выглядае зусім нядрэнна на фоне іншых дзяржаў, – зазначыла на прэзентацыі адказны сакратар Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Кацярына Ярміліна.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

## Падарункі ад Прэзідэнта краіны

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 5-26 красавіка знаходзіўся з рабочай паездкай у Гомельскай вобласці**

У чацвер, 25 красавіка, кіраўнік дзяржавы наведаў рачны порт "Мазыр", а таксама месца будаўніцтва новага спецыялізаванага дыспансера ў Гомелі.

26 красавіка Прэзідэнт пабываў у Чачэрскім раёне. Аляксандр Лукашэнка азнаёміўся з работай, якая праводзіцца ў раёне па мінімізацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Аляксандр Лукашэнка падтрымаў новую тэхналогію вырошчвання, апрацоўкі і захоўвання кукурузы, што з'яўляецца унікальнай збожжавай культурай, якая практычна не назапашвае радыенукліды і дае магчымасць атрымаць чыстыя мяса-малочныя прадукты. Адабрэнне кіраўніка дзяржавы атрымала таксама ідэя стварэння беларуска-малдаўскага сумеснага прадпрыемства па вырошчванню кукурузнага зерня. Як чакаецца, гэта пытанне будзе абмяркоўвацца ў ходзе візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Малдову.

Закранаючы праблему далейшага развіцця пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС рэгіёнаў, Прэзідэнт заявіў, што дзяржава будзе аказваць ім падтрымку і ў далейшым. Аднак, з улікам цяперашніх эканамічных рэалій, палітыка кіраўніцтва краіны будзе больш прагматычнай. Аляксандр Лукашэнка ўказаў на недапушчальнасць прадаўжэння практыкі "разбазарвання" бюджэтных грошай і падкрэсліў, што фінансавыя сродкі будуць выдзяляцца выключна пад канкрэтныя праграмы. У прыватнасці, прыярытэт будзе аддавацца ўзвядзенню лячэбна-аздараўленчых і спартыўных збудаванняў, а таксама будаўніцтву жылля і інфраструктуры ў сельскай мясцовасці. "Беларуская вёска будзе адраджацца", – сказаў на заканчэнне прэзідэнт.

Асаблівую ўвагу кіраўнік дзяржавы ўдзяліў праблеме кадравага забеспячэння чарнобыльскіх раёнаў. На сённяшні дзень адчуваецца недахоп спецыялістаў у галіне сельскай гаспадаркі. Паводле слоў Прэзідэнта, "мы пойдзем такім жа шляхам, як у адукацыі і медыцыне: зацікавім спецыялістаў матэрыяльна".

У развіцці і рэабілітацыі чарнобыльскіх раёнаў, на думку кіраўніка дзяржавы, не апошнюю ролю павінна адыгрываць навука. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што новыя навукова-даследчыя інстытуты адкрывацца не будуць. Іх дзейнасць трэба будзе пераарыентаваць для таго, каб яна давала практычныя вынікі.

У гэты ж дзень Прэзідэнт наведаў фізкультурна-аздараўленчы комплекс "Брыз" сярэдняй школы № 1 Чачэрска, а таксама дзіцячы сацыяльны прытулак у вёсцы Отар, выхаванцам якога кіраўнік дзяржавы падарыў мікрааўтобус. У адказ на просьбу дзяцей Прэзідэнт распарадзіўся таксама выдзеліць прытулку веласіпеды, відэамагнітафон, відэакамеру і фотаапарат.

У Чачэрску і вёсцы Отар Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з мясцовымі жыхарамі і адказаў на пытанні, якія іх цікавілі.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

## У студэнты - без экзаменаў

***Як вядома, работа са студэнтамі пачынаецца не з першага года навучання ў ВНУ, а з выбару лепшых абітурыентаў.***

У апошнія гады Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт не адчувае цяжкасцей пры наборы студэнтаў на першы курс. Наадварот, конкурс звычайна – адзін з самых высокіх у рэспубліцы. Тым не менш БДЭУ ставіць перад сабой задачу пошуку "свайго" студэнта. І адным са шляхоў з'яўляецца штогадовая, цяпер ужо традыцыйная, алімпіяда школьнікаў па эканоміцы.

Яна праводзіцца ў тры туры: раённая, гарадская і рэспубліканская. Пераможцы кожнага тура прымаюць удзел у наступным, а вучням, якія занялі першыя тры месцы на рэспубліканскай алімпіядзе, прадастаўляецца магчымасць стаць студэнтам аднаго з факультэтаў БДЭУ без уступных экзаменаў.

Чарговая, сёмая па ліку, рэспубліканская алімпіяда школьнікаў нядаўна прайшла ва універсітэце – юныя спецыялісты па эканоміцы з усіх рэгіёнаў рэспублікі змаглі выпрабаваць сябе, праверыць свае веды на такім высокім узроўні. Адказна, складана, але і прэстыжна, бо "прыз" пераможцу – права стаць студэнтам гэтай паважанай навучальнай установы – таго варты.

Старшакласнікі спаборнічалі ў конкурсах "Асновы эканамічнай тэорыі", "Эканамічныя загадкі", "Асновы інфармацыйных тэхналогій", "Маркетынг", "Бізнес-праект школьнай кампаніі" і многіх іншых. Пасля падвядзення вынікаў былі аб'яўлены пераможцы. Каштоўныя падарункі атрымалі і пераможцы асобных конкурсаў. Дыпломамі ўганаравалі каманды, якія занялі першыя тры месцы. У гэты раз імі сталі каманды гімназіі №6, сярэдніх школ №№52 і 149 Мінска, сярэдняй школы №51 Гомеля і Брылеўскай сярэдняй школы Гомельскага раёна.

Абсалютнымі ж пераможцамі алімпіяды, а значыць, і студэнтамі БДЭУ, сталі Аляксей Камашка, Дар'я Слабчанка і Алена Мамай.

**Антаніна ПЯТРОВА.**

Кіраванне адукацыяй

## Першыя ластаўкі... з Мурманска

***Нядаўна Мінск наведала дэлегацыя кіраўнікоў адукацыі Мурманскай вобласці. На працягу двух тыдняў госці знаёміліся не толькі са славутасцямі беларускай сталіцы, а і з ходам рэформы адукацыі ў навучальных установах Беларусі.***

Такую курсавую падрыхтоўку прадаставіла для расійскіх калег Беларуская акадэмія паслядыпломнай адукацыі. "Настаўніцкая газета" не прамінула гэтую падзею, і яе карэспандэнт звярнуўся за падрабязнасцямі да дэкана факультэта кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі вышэйшага звяна Акадэміі Анатоля ГЛІНСКАГА.

**- Анатоль Аляксандравіч, візіт у вашую ўстанову мурманчан, безумоўна, выклікаў рэзананс у педагагічным асяроддзі рэспублікі. Таму слушным было б пытанне пра першапрычыны гэтага ўзаемадзеяння. Чаму менавіта Акадэмія паслядыпломнай адукацыі прымала расійскіх педагогаў?**

– Пачатак гэтых стасункаў закладваўся яшчэ падчас візіту Прэзідэнта А.Р.Лукашэнкі ў Мурманскую вобласць. Хто цікавіўся гэтай падзеяй, заўважыў, што кіраўніком дзяржавы быў зроблены акцэнт на развіцці супрацоўніцтва з расіянамі ў галіне адукацыі. Таму разам з іншымі пагадненнямі быў падпісаны і дагавор, які пашырае нашы сувязі з педагогамі Расіі.

Чаму менавіта Акадэмія паслядыпломнай адукацыі? Дык гэта зразумела! Размова ж ідзе аб кіруючых структурах Расійскай Федэрацыі, а наша акадэмія з'яўляецца вядучай установай у сістэме павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі педагагічных кіруючых кадраў краіны.

Прадстаўленыя Акадэміяй спецыяльнасці маюць даволі шырокі спектр: гэта дашкольная адукацыя, выхаванне і пазашкольная работа, псіхалогія, дэфекталогія, інфарматыка, культуралогія, філалогія і іншыя.

Акадэмія мае некалькі факультэтаў і кафедраў.

**- Хацелася б даведацца, як ваш факультэт фарміраваў праграму курсавой падрыхтоўкі мурманчан. Што ўвогуле адметна для вашай структуры?**

– Як правіла, кожны факультэт Акадэміі мае сваю кафедру. Работу факультэта характарызуе адсутнасць такой галаўной структуры. Таму прыходзіцца супрацоўнічаць з усімі кафедрамі установы. Цесныя ўзаемаадносіны наладжаны ў гэтым плане з кафедрамі педагогікі, філасофіі і гуманітарных праблем адукацыі, інфарматыкі, замежных моў, што ў значнай меры паспрыяла вызначэнню тэматычных кірункаў курсавой работы з дэлегацыяй Мурманскай вобласці.

Я акрэсліў бы тры яе напрамкі. Па-першае, гэта павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў ажно чатырнаццаці катэгорый.

Перападрыхтоўка кадраў – другі кірунак. І значнасць яго зразумелая. Сёння, як ніколі, абвостраны праблемы з педагагічнымі кадрамі ў школе, асабліва ў сельскай мясцовасці. Па рэкамендацыі раённых аддзелаў адукацыі мы адбіраем слухачоў на двухгадовыя курсы па перападрыхтоўцы на спецыяльнасці: англійская, нямецкая мова, беларуская мова і літаратура, інфарматыка з прысваеннем кваліфікацыі. Рыхтуем настаўнікаў і па рэлігіязнаўству, але ўжо без прысваення кваліфікацыі.

Перападрыхтоўка ажыццяўляецца пакуль на бюджэтнай аснове і на базе першай вышэйшай адукацыі.

Трэці кірунак дзейнасці нашага факультэта – гэта работа магістратуры, дзе ажыццяўляецца падрыхтоўка спецыялістаў, здольных займацца навуковай, даследчай, эксперыментальнай дзейнасцю на аснове сваіх навучальных устаноў. Прыемна адзначыць, што сёлета ў нас займаецца ўжо 51 чалавек.

Як бачыце, наш факультэт працуе шматпланава, кірункі дзейнасці вельмі разнастайныя. Такія ж і курсы для нашых слухачоў.

Так, у плане гэтага навучальнага года заяўлены мэтавыя курсы для работнікаў Міністэрства адукацыі, начальнікаў упраўленняў адукацыі, а таксама для кіруючых работнікаў і спецыялістаў навучальных устаноў новага тыпу. Курсы па тыпалогіі падзяляюцца яшчэ на базавыя, праблемныя і аўтарскія.

**- Напэўна, асаблівых праблем з фарміраваннем праграмы курсаў для мурманчан, а таксама з насычэннем яе зместу у вас не было. Вопыт ужо існуе, і немалы. Але ж дагэтуль вы працавалі толькі з суайчыннікамі. Госці з Мурманска - пакуль "першыя ластаўкі", што накладвае большую адказнасць.**

– Так дарэчы прыйшлося гэта вобразнае параўнанне. Дэлегацыя ж з Мурманска складалася толькі з адных жанчын. Іх было ажно дваццаць дзве. Уяўляеце, як было цяжка задаволіць усе густы?! Але, мяркуючы па водгуках, нам гэта ўдалося. Калі спыняцца падрабязна на мерапрыемстве, дык тэма курсаў гаворыць сама за сябе: "Сучасная школа: вопыт, праблемы і перспектывы інавацыйнага развіцця". І прапанавана яна кіраўнікам навучальных устаноў новага тыпу, з профільным і паглыбленым навучаннем. У Расіі, як вядома, ідзе таксама рэформа адукацыі. І той, ужо здабыты намі, вопыт быў гасцям бязмерна цікавы.

Праграма курсаў складалася з двух модуляў. Першы – тэарэтычны, другі, адпаведна, практычны. У першай частцы курсаў гаворка ішла пра аптымізацыю інавацыйнай дзейнасці сучаснай школы ва ўмовах рэфармавання адукацыі.

Другі модуль – педагагічная практыка па ўкараненні і абнаўленні зместу адукацыі. Прыемна адзначыць, што расійскія калегі прызналі, што ў практычнай частцы рэформы беларусы ідуць наперадзе.

Прафесар кафедры філасофіі і гуманітарных праблем адукацыі, доктар філасофскіх навук Яўгенія Петушкова выступіла перад гасцямі з філасофскім абгрунтаваннем праблемы вучэбна-метадычнага забеспячэння інавацыйных працэсаў.

Падчас курсаў размова ішла пра інавацыйныя працэсы ў адукацыі, у прыватнасці пра інаватыку ў кіраванні, у змесце навучання і г.д.

Не менш цікавай для расіян была тэма навукова-метадычнага забеспячэння рэформы школы, якую асвятляў прарэктар Нацыянальнага інстытута адукацыі Алег Лісейчыкаў.

З псіхалагічнымі выкладкамі забеспячэння інавацыйнага развіцця сучаснай школы выступіла на курсах намеснік дырэктара Мінскага вучэбна-лінгвістычнага комплексу гімназія-каледж № 24 Наталля Дзераклеева. У мерапрыемстве былі задзейнічаны вядучыя навукоўцы Акадэміі.

Госці наведалі лепшыя навучальныя ўстановы Мінска. Усе яны – рознага тыпу, профілю, многія працуюць у эксперыментальным рэжыме. Так, у сярэдняй школе № 196, дзе дырэктарствуе Зоя Шыпко, гасцям былі прадстаўлены тры ступені навучання. Установа працуе на эксперыменце па 12-гадовым навучанні, мае праліцэйскія і ліцэйскія класы.

Арганізацыя профільнага навучання ва ўстанове новага тыпу была прадстаўлена ў тэхналагічнай гімназіі № 13, што пры Беларускім тэхналагічным універсітэце. Яе дырэктар Вольга Чарнавусава, кандыдат педагагічных навук, расказала прысутным аб рабоце з адоранымі дзецьмі.

Расіяне пазнаёміліся таксама з вопытам гімназіі № 6 сталіцы і ліцэя БДУ.

Да патрэб нашых гасцей працавалі індывідуальныя кансультацыі, дзе можна было высветліць любое ўзніклае пытанне.

А ў адказ на запрашэнне расійскіх педагогаў будзе ўжо рыхтавацца наш візіт у Мурманскую вобласць, што, безумоўна, прадоўжыць далейшыя стасункі.

**Гутарыла Ала КЛЮЙКО.**

# Вызначае прамысловасць...

***Тое, што Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія пераўтворана ў Беларускі нацыянальны тэхнічны універсітэт, трэба расцэньваць як факт прызнання вялікіх заслуг гэтай навучальнай установы, і найперш - навуковых заслуг.***

Сёння ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце працуе больш за 60 працэнтаў усіх дактароў навук краіны ў галіне будаўніцтва, архітэктуры, машынабудавання, металапрацоўкі, энергетыкі, транспарту. Штогод універсітэцкія саветы па абароне дысертацый разглядаюць для народнай гаспадаркі больш паловы усіх дактароў тэхнічных навук.

Новы статус умацуе пазіцыі БНТУ таксама і на замежным адукацыйным рынку. Ужо вядзецца работа па стварэнні вучэбных планаў і праграм сумеснай навуковай і адукацыйнай дзейнасці з Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным універсітэтам, Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным тэхнічным універсітэтам, Новачаркаскім тэхнічным універсітэтам і Іжэўскім тэхнічным універсітэтам. Плануецца таксама адкрыццё філіялаў БНТУ ў Ліване, Сірыі, Непале, Кітаі, Расіі і Літве. Усё гэта, безумоўна, падыме прэстыж беларускай тэхнічнай школы на міжнароднай арэне.

Што да навуковай дзейнасці Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта, дык тут ВНУ сапраўды ёсць чым пахваліцца.

Тэматыка навуковых работ ва універсітэце вызначаецца найперш надзённымі патрабаваннямі прамысловасці. І выкарыстанне распрацовак БНТУ ажыццяўляецца або ў межах гаспадарчых дагавораў, або ў межах дзяржаўных навукова-тэхнічных праграм (у суадносінах прыкладна 60 да 40).

Можна прывесці толькі некалькі прыкладаў, каб паказаць, наколькі эфектыўнай можа быць універсітэцкая навуковая дзейнасць.

Так, распрацоўкі ў галіне павышэння якасці энергетычнага абсталявання, якія ўжо ўкаранілі ЦЭЦ-4 і ЦЭЦ-3 у Мінску, Лукомльская ГЭС і іншыя, дазволілі гэтым прадпрыемствам адмовіцца ад імпарту аналагічных матэрыялаў і сэканоміць каля 30 тысяч долараў ЗША пры рамонце кожнага турбаагрэгата.

Рэсурсазберагальную тэхналогію, распрацаваную ў БНТУ, укаранілі на Беларускім металургічным заводзе. Эканамічны эфект - больш за 30 тысяч долараў ЗША. Там жа, на БМЗ, праведзены паспяховыя выпрабаванні ўласцівасцей пракатных ролікаў. Зніжэнне сабекошту гэтых дэталяў у параўнанні з базавым варыянтам - у 1,16 раза пры павелічэнні тэрміну службы ў 4,5 раза. Такім чынам, эканамічны эфект ад укаранення павінен складаць больш за 100 тысяч долараў ЗША штогадова.

У БНТУ распрацавана тэхналогія выплаўкі ліцейных чыгуноў у ротарнай печы з дысперсных адходаў чорных металаў, якая дазваляе ў 2-3 разы павысіць вытворчасць плавільных печаў і ў 3-5 разоў знізіць выдаткі на энергарэсурсы. Укараненне гэтай тэхналогіі на навукова-вытворчай фірме "Металон" у Асіповічах дазваляе ўтылізаваць адходы ўласнай вытворчасці, зніжаць забруджанне навакольнага асяроддзя пылегазавымі выкідамі, павысіць якасць прадукцыі.

Актыўная работа на рынку вымяральнай тэхнікі дазваляе БНТУ заняць годнае месца сярод вытворцаў электрычных вагаў і дазатараў. Так, ВНУ паставіла на прадпрыемствы Белпошты больш чым 300 вагаў уласнай вытворчасці, што дазваляе замяніць закупку імпартнай тэхнікі на суму больш чым 50 тысяч долараў ЗША. Значныя поспехі дасягнуты таксама і ў аўтаматызацыі працэсаў дазіравання разнастайных матэрыялаў. Створаныя ў БНТУ сістэмы дазіравання выкарыстоўваюцца на васьмі асфальтна-бетонных заводах, што дало ім магчымасць адмовіцца ад закупкі нямецкага абсталявання на суму, большую за 400 тысяч нямецкіх марак.

Як адзначыў намеснік прарэктара БНТУ па навуковай рабоце прафесар Уладзімір Саламаха, навуковая дзейнасць універсітэта дазваляе ўстанове не толькі годна існаваць, гэта яшчэ і база для навучання студэнтаў, а таксама палігон для першага студэнцкага навуковага вопыту.

Каля 5 працэнтаў патэнтаў, якія "падае" універсітэт, зроблены з удзелам студэнтаў. І важна, што колькасць моладзі, занятай навукова-даследчай работай, ва універсітэце расце штогод. Так, калі ў 2000 годзе такой моладзі было 25 працэнтаў, то ў 2001 годзе - ужо 33,3 працэнта. Павялічваецца і колькасць студэнтаў, што ўдзельнічаюць у навукова-даследчых работах па гаспадарча-дагаворных і дзяржаўных тэмах: з трох працэнтаў у 2000 годзе да 4,5 працэнтаў у 2001 годзе з ліку агульнай колькасці студэнтаў дзённай формы навучання.

Шырыцца ўдзел студэнтаў Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта ў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах студэнцкіх навуковых работ. І не змяншаецца папулярнасць студэнцкай навукова-тэхнічнай канферэнцыі БНТУ (БПІ, БДПА), якая праводзіцца ўжо 50 гадоў.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

# І універсітэт, і даследчы цэнтр

***Радыеэкалагічную навуку пасля 1986 года сталі падзяляць на "дачарнобыльскую" і "постчарнобыльскую". Ужо 10 гадоў, як апошні этап яе развіцця звязаны непасрэдна з дзейнасцю Міжнароднага экалагічнага універсітэта імя Андрэя Сахарава. Напэўна, менавіта таму, калі размова заходзіць пра Сахараўскі універсітэт, адразу згадваецца Чарнобыль...***

Да аварыі на Чарнобыльскай АЭС былі ў гісторыі тэхнагенных катастроф і іншыя, меншыя па маштабах і наступствах. І ніхто не гарантуе, што яна была апошняй: увогуле, здабыча атамнай энергіі - працэс надзвычай складаны і не пазбаўлены пэўнай долі рызыкі і небяспекі.

Многія цяпер ведаюць, што ліквідацыя наступстваў Чарнобыльскай аварыі адбывалася ва ўмовах татальнага недахопу спецыялістаў-радыеэколагаў. Гэта стала вялікім урокам на будучае, і вывады былі зроблены грунтоўныя.

У студзені 1992 года, паводле ініцыятыў І Міжнароднага кангрэса памяці Андрэя Сахарава "Мір, прагрэс, правы чалавека" і Праграмы "Чарнобыль" ААН, у Мінску пры Белдзяржуніверсітэце быў адкрыты Міжнародны каледж па радыеэкалогіі імя А.Сахарава, фундатарам і кіраўніком якога стаў Аляксандр Люцко. Хутка каледж пераўтварыўся ў інстытут, а ў 1999 годзе, прайшоўшы акрэдытацыю і атэстацыю Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, стаў універсітэтам - ужо пад кіраўніцтвам прафесара, доктара біялагічных навук Аляксандра Мілюціна.

Ужо 10 гадоў тут рыхтуюць кадры вышэйшай кваліфікацыі для міністэрстваў, ведамстваў, арганізацый, навучальных устаноў, якія займаюцца пытаннямі прагназавання і ліквідацыі наступстваў радыяцыйных аварый, уплыву радыяцыі і іншых фактараў на экалагічныя сістэмы, дыягностыкі і прафілактыкі захворванняў, абумоўленых неспрыяльнымі абставінамі і іншымі сумежнымі праблемамі. Выпускнікі Сахараўскага універсітэта - гэта спецыялісты ў галіне радыеэкалогіі, радыяцыйнай бяспекі, радыебіялогіі, радыяцыйнай і ядзернай медыцыны, радыяцыйных тэхналогій.

***

Сёння Міжнародны экалагічны універсітэт імя А.Сахарава - гэта не толькі вышэйшая навучальная ўстанова, але і навуковы цэнтр дзяржаўнага маштабу. Тут праводзяцца даследаванні як фундаментальнага, так і прыкладнога прызначэння.

Найважнейшай праблемай для універсітэцкіх навукоўцаў стала ўсебаковае вывучэнне наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, выяўленне механізмаў дзеяння так званых "малых доз" радыяцыі і іх медыка-біялагічных наступстваў. Вырашыць яе - значыць навукова абгрунтаваць крытэрыі радыяцыйнай бяспекі, бо, нягледзячы на павялічаны радыяцыйны фон у рэспубліцы, людзі могуць і павінны жыць паўнавартасным жыццём.

Ужо некалькі гадоў Сахараўскі універсітэт удзельнічае ў дзяржаўнай навуковай праграме па пераадоленню наступстваў катастрофы на ЧАЭС "Радыяцыйная бяспека", а таксама ў праграме "Дыягностыка" - па стварэнню апарата для ранняй дыягностыкі рака.

Да таго ж, экалагічны універсітэт з'яўляецца галаўной арганізацыяй у міжуніверсітэцкай праграме фундаментальных даследаванняў, у якой бяруць удзел дзевяць вядучых ВНУ рэспублікі. Разлічана яна на пяць гадоў і накіравана на вывучэнне ўздзеяння прыродных, тэхнагенных, сацыяльных фактараў на дынаміку экасістэм і стан здароўя насельніцтва. Навукоўцы Сахараўскага універсітэта выконваюць чатырнаццаць праектаў у межах праграмы даследаванняў Нацыянальнай акадэміі навук: "Электроніка", "Спектр", "Біямалекулы", "Экалогія адаптацыі", "Аграрная эканоміка" і інш.

Фарміраванне прафесарска-выкладчыцкага складу ў Сахараўскім каледжы адбывалася за кошт Белдзяржуніверсітэта, ВНУ Міністэрства аховы здароўя, Нацыянальнай акадэміі навук. І ўсе прыходзілі са сваімі ідэямі, навуковымі распрацоўкамі, творчымі задумамі. З іх і пачалося развіццё навукі.

У першы ж год існавання каледжа была створана навуковая лабараторыя, а яшчэ праз год - арганізаваны навукова-даследчы сектар, які ў 2001 годзе пераўтвораны ў навукова-даследчы інстытут экалагічных праблем. У яго склад цяпер уваходзяць чатырнаццаць навукова-даследчых лабараторый, кафедра ЮНЕСКА, два навуковыя цэнтры - цэнтр трансфера экапрыярытэтных тэхналогій і цэнтр даследавання характарыстык біялагічных злучэнняў.

Вялікае значэнне ў павышэнні прэстыжу універсітэта як навуковага цэнтра мае аспірантура. Яна адкрыта ў 1995 годзе, а ў 1998 пачала дзейнічаць магістратура. Ёсць тут і свой Савет па абароне кандыдацкіх дысертацый: на гэты момант з універсітэта выйшла ўжо дзевяць кандыдатаў навук.

***

У навуковых даследаваннях вельмі актыўна ўдзельнічаюць і студэнты. Іх схільнасць да навукі выяўляецца вельмі хутка, на першых курсах, а для яе рэалізацыі ва універсітэце створаны ўсе ўмовы. Тут дзейнічае студэнцкая навукова-даследчая лабараторыя. Ужо сталі традыцыйнымі Міжнародная канферэнцыя маладых вучоных "Экалагічныя праблемы XXI стагоддзя" (альбо Сахараўскія чытанні) і Міжнародны сімпозіум "Актуальныя праблемы дазіметрыі". Студэнты бяруць удзел у гэтых мерапрыемствах ці не на роўных са сталымі навукоўцамі.

Штогод некалькі студэнтаў, аспірантаў, магістрантаў атрымліваюць гранты ад Міністэрства адукацыі, а таксама імянныя стыпендыі ад расійскіх фондаў - Сахараўскага і імя Вярнадскага. Узнагароды гэтыя вельмі ганаровыя. І каб арымаць іх, трэба вытрымаць конкурс навуковых работ, апублікаваць свае даследванні і, натуральна, вучыцца толькі на "выдатна". Студэнты, аспіранты, выкладчыкі, навуковыя супрацоўнікі стажыруюцца ў вядомых універсітэтах і навуковых арганізацыях ЗША, Германіі, Англіі, Францыі, Швецыі.

***

Абавязковая для ўсіх студэнтаў вучэбная практыка. Яе праходзяць на дзвюх вучэбных станцыях, што належаць універсітэту і выкарыстоўваюцца для забеспячэння эксперыментальнай часткі навуковых работ.

Адна з іх - так званая Палявая станцыя - размешчана ў трынаццаці кіламетрах ад забруджанай чарнобыльскай зоны, у горадзе Хойнікі, што на Гомельшчыне. Асновы радыяцыйнай бяспекі, дазіметрычныя метады даследавання, тэхніка забору радыеактыўных проб - гэта далёка не поўны спіс прадметаў, якія вывучаюцца ў ходзе практыкі і неабходны кожнаму радыеэколагу. Шэраг навуковых работ на Палявой станцыі праводзіцца ў межах дзяржаўных і міжнародных праграм.

Другая вучэбная станцыя знаходзіцца ў вёсцы Волма Дзяржынскага раёна. Тут у распараджэнні маладых навукоўцаў былы графскі маёнтак, 100 гектараў зямлі, сістэма маляўнічых сажалак і нават два прыгажуны-ламавікі, перавезеныя з забруджанай зоны. У Волме студэнты вывучаюць перавагі экапрыярытэтнай энергетыкі.

З Аўстрыі і Германіі мяркуецца паставіць ветравыя электрастанцыі, дзве міні-ГЭС. Тут плануецца інсталяваць сонечныя цеплавыя калектары для нагрэву вады і паветра (дарэчы, дзве падобныя сонечныя батарэі ўстаноўлены ў самім будынку універсітэта, і гарачая вада ў вучэбны корпус трапляе "ад сонца") і сонечныя фотаэлектрычныя ўстаноўкі.

Усё гэта будзе падключана да энергетычнай сеткі Беларусі і, натуральна, цалкам забяспечыць патрэбы ў энергіі самой вучэбнай станцыі і ўвогуле ўсяго экапарка, што створаны на яе базе. Першая ўстаноўка на гэтай унікальнай эксперыментальнай пляцоўцы, напэўна, будзе інсталявана ў траўні, падчас Сахараўскіх дзён, да якіх прымеркавана таксама і святкаванне 10-гадовага юбілею універсітэта.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

# Прыносіць эканамічны эфект

## По традыцыі красавік лічыцца ў БДЭУ парой росквіту студэнцкай навукі



На працягу амаль двух тыдняў праходзяць шматлікія навуковыя мерапрыемствы – канферэнцыі, сустрэчы з вучонымі, круглыя сталы, сімпозіумы. Завяршаецца дэкада студэнцкай навукі маштабнай навукова-практычнай канферэнцыяй, якая мае статус рэспубліканскай.

Сёлета яна была прысвечана праблемам сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь і працавала па семнаццаці секцыях, якія ахоплівалі шырокі спектр актуальных пытанняў нацыянальнай і сусветнай эканомікі на сучасным этапе. Многія з работ, вынесеных на суд журы конкурсу лепшых дакладаў, былі апублікаваны ў навуковых часопісах і зборніках, вынікі даследаванняў укаранёны ў вытворчасць або выкарыстаны ў якасці рэкамендацый па ўдасканаленню арганізацыі працы ў сферы гандлю, турызму, фінансавых органах і г.д. Сёння студэнцкая навука ва універсітэце мае прыкладны характар і часта прыносіць эканамічны эфект.

На міжуніверсітэцкай стэндавай канферэнцыі "Сучасныя камп'ютэрныя інфармацыйныя тэхналогіі" даклад студэнта факультэта банкаўскай справы Дзмітрыя Булавы, які прадстаўляў уласны праект аўтаматызацыі дзейнасці бібліятэкі, выклікаў павышаную цікавасць не толькі ва ўдзельнікаў мерапрыемства, але і ў адміністрацыі ВНУ, бо ён можа быць практычна выкарыстаны пры арганізацыі работы універсітэцкага кнігасховішча. Не менш актуальная і работа сёлетняга выпускніка, імяннога стыпендыята Дзмітрыя Слаўнікава, які прааналізаваў практычныя аспекты арганізацыі падатковага планавання на прадпрыемстве і збіраецца выкарыстаць гэтыя даныя непасрэдна на сваім будучым рабочым месцы. Даклад Дзмітрыя вызначаны як самы актуальны і атрымаў Гран-пры.

Колькасць студэнтаў эканамічнага універсітэта, сур'ёзна занятых навукай, уражвае. Па падліках статыстыкаў, кожны трэці студэнт актыўна ўдзельнічае ў навуковай дзейнасці, выступае на канферэнцыях рознага ўзроўню або ўдзельнічае ў студэнцкім навуковым атрадзе. Напрыклад, летась студэнты БДЭУ пабывалі на 32 міжнародных канферэнцыях, 716 чалавек выступілі з дакладамі на рэспубліканскіх, 93 – на міжуніверсітэцкіх канферэнцыях. Лаўрэатаў розных конкурсаў таксама шмат. Зусім нядаўна дзевяць студэнтаў вярнуліся з Масквы з узнагародамі, атрыманымі на Усерасійскай алімпіядзе па эканамічных і прававых дысцыплінах. Цяпер ва універсітэце праходзіць адборачны тур па дзелавой камп'ютэрнай гульні "Мадэляванне эканомікі і менеджменту", міжнародныя спаборніцтвы па якой праводзяцца кожны год, пачынаючы з 1992. Апошнія тры гады каманда БДЭУ займае ў гэтым відзе інтэлектуальных спаборніцтваў толькі прызавыя месцы. Летась студэнты В.Якаўлеў і І.Станкевіч (трэнер і кіраўнік каманды асістэнт кафедры рэгіянальнага кіравання О.Заўялава) занялі трэцяе месца сярод 1070 каманд з 64 краін свету.

Практыка ўкаранення ў вучэбны працэс вынікаў навуковых даследаванняў студэнтаў актывізуе іх дзейнасць, дазваляе ім вызначыць сваю будучыню і часам становіцца шляхам у сур'ёзную навуку. Кафедры ВНУ пастаянна заняты пошукам студэнтаў, якія маюць схільнасць да навуковай дзейнасці, і прапануюць ім на роўных правах удзел у распрацоўцы дзяржбюджэтных і гаспадарчадагаворных тэм. Больш паўсотні маладых людзей далучаецца штогод да падобнай навуковай дзейнасці кафедр.

Цесная ўвязка тэматыкі курсавых і дыпломных праектаў, заданняў па вытворчай і пераддыпломнай практыцы з фундаментальнымі і гаспадарчадагаворнымі навукова-даследчымі работамі дазваляе студэнтам атрымаць новыя навуковыя вынікі, якія маюць практычную значнасць, удзельнічаць у выстаўках, конкурсах, рыхтаваць даклады і навуковыя артыкулы, якія бываюць прадстаўлены на студэнцкіх рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцыях, а таксама апублікаваны ў перыядычных навуковых часопісах. У мінулым годзе студэнты універсітэта апублікавалі ў рэспубліканскіх часопісах розная тэматыкі 382 артыкулы. У рабоце студэнцкіх навуковых гурткоў удзельнічае больш як 650 чалавек.

Развіццё студэнцкай навукі ў БДЭУ шмат у чым тлумачыцца павышанай увагай да гэтай галіны дзейнасці універсітэта з боку яго кіраўніцтва. Прарэктар па навуковай рабоце прафесар Мікалай Заяц ацэньвае ўклад студэнтаў БДЭУ ў навуку як дастаткова важкі і заўсёды аказвае адораным маладым людзям усемагчымую падтрымку. Бо толькі так ВНУ можа папаўняць кадрамі аспірантуру і магістратуру, прымаючы туды выпускнікоў, якія актыўна займаюцца навуковай дзейнасцю. Падрыхтоўка годнай змены маладых вучоных на кожнай кафедры з'яўляецца першаступеннай для работы калектыву. Магчыма, таму нямала студэнтаў жадаюць займацца навукай ва універсітэце, бо перспектыва скончыць ВНУ і паступіць у аспірантуру сёння прываблівае многіх маладых людзей.

Інвестыцыі ў навуку павінны адрадзіць эканоміку і ўзняць краіну на новы ўзровень развіцця. Моладзь са сваім гнуткім і прагматычным мысленнем шмат чаго можа дасягнуць у гэтым напрамку, асабліва з добрай эканамічнай адукацыяй. І БДЭУ ў ліку першых у рэспубліцы імкнецца працаваць на перспектыву, на ўздым эканамічнай навукі.

**Антаніна ПЯТРОВА.**

НА ЗДЫМКУ: прарэктар БДЭУ па навуковай рабоце прафесар Мікалай Заяц уручае дыплом першакурсніку Сяргею Краўчанку, які заняў першае месца на міжуніверсітэцкай канферэнцыі.

***P.S. Калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, з Міністэрства адукацыі прыйшла інфармацыя, што па выніках навуковай дзейнасці студэнтаў за мінулы год Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт заняў першае месца сярод ВНУ краіны.***

# Спартсмены высокага класа ў аспірантуру не спяшаюцца

***Навукова-даследчая работа ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі фізічнай культуры вядзецца з першых гадоў існавання гэтай ВНУ і сёння з'яўляецца важным складнікам яе дзейнасці. З 1946 года тут сталі традыцыйнымі навукова-метадычныя канферэнцыі, а з 1996 года праводзяцца навуковыя сесіі з удзелам выкладчыкаў, студэнтаў, аспірантаў, дактарантаў і спашукальнікаў з акадэміі і іншых вышэйшых навучальных устаноў. У красавіку адбылася чарговая - ужо шостая - сесія па выніках навукова-даследчай работы ў 2001 годзе.***

– Сесія – гэта не толькі форма прэзентацыі апошніх вынікаў навуковых даследаванняў, але і азнаямленне з дасягненнямі передавой практыкі, – зазначыў рэктар БДАФК Міхаіл Яфімавіч Кобрынскі, доктар педагагічных навук, прафесар, акадэмік, які выступіў на пленарным пасяджэнні. – Гэта таксама абмен вопытам, дыскусіі, наладжванне супрацоўніцтва з айчыннымі і замежнымі універсітэцкімі навукоўцамі.

Яшчэ ў канцы 50-х гадоў, калі на ўсе кафедры інстытута фізкультуры запрашаліся выкладчыкі з іншых вышэйшых навучальных устаноў, з іншых галін навукі (анатомія, фізіялогія, педагогіка, псіхалогія), кіраўніцтва гэтай ВНУ вырашыла рыхтаваць навукова-педагагічныя кадры з ліку сваіх выпускнікоў і прыняло меры па актывізацыі навукова-даследчай дзейнасці. Цяпер у акадэміі дзейнічае 14 навукова- даследчых лабараторый, а да 2005 года мяркуецца стварыць іх на кожнай кафедры.

Праблема падрыхтоўкі навукова-педагагічных кадраў вострая ва ўсіх ВНУ. Часткова гэта звязана з так званай уцечкай інтэлекту ў камерцыйныя структуры ці ў замежжа. На агульным фоне становішча акадэміі фізкультуры зусім нядрэннае. Тут распрацаваны і рэалізуецца план падрыхтоўкі навукова-педагагічных кадраў да 2005 года. Апошнім часам асабліва арыентуюцца на падрыхтоўку маладых выкладчыкаў і "амаладжэнне" навукова-педагагічных кадраў. Важная роля ў гэтым належыць аспірантуры – першай прыступцы навуковай лесвіцы, якая дзейнічае з 1965 года. Увесь час трымаецца высокі конкурс: 2 – 3 чалавекі на месца. Было б лепей, калі б у аспірантуру паступалі асобы, якія маюць стаж працы пасля заканчэння акадэміі і ўжо вызначыліся з кірункам навуковых даследаванняў. Цяпер жа пераважная большасць аспірантаў – учарашнія выпускнікі. І гэта адна з прычын таго, што пасля заканчэння аспірантуры вельмі нямногія прадстаўляюць кандыдацкія дысертацыі. Прытым адзначаецца тэндэнцыя павышэння цікавасці аспірантаў да праблем фізвыхавання, фізічнай рэабілітацыі, аздараўленчай фізічнай культуры, а вось інтарэс да даследавання вышэйшых дасягненняў спорту – памяншаецца.

Вельмі цяжка прыцягваць у аспірантуру спартсменаў высокай кваліфікацыі, якія ўжо развітваюцца з вялікім спортам, альбо трэнераў, што дасягнулі значных поспехаў у падрыхтоўцы спартсменаў высокага класа. Нядаўна пачаў ажыццяўляцца набор у аспірантуру па новых спецыяльнасцях – фізіялогія і біямеханіка, у хуткім часе адкрыюцца яшчэ дзве – аднаўленчая і спартыўная медыцына, лячэбная фізічная культура.

Як вядома, і для абароны дысертацый, і для прысваення вучоных званняў спашукальнікам неабходна мець пэўную колькасць публікацый, і патрабаванні да іх якасці апошнім часам павышаюцца. Калі раней была праблема абнародаваць навукова-даследчыя работы, дык цяпер яна вырашана дзякуючы пашырэнню ў акадэміі выдавецкіх магчымасцей. Тут штогод публікуюцца матэрыялы навуковых сесій, рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцый па спартыўнай тэматыцы, якія праводзяцца на базе акадэміі, таксама рэгулярна выдаюцца зборнік навуковых прац "Вучоныя запіскі" і часопіс "Свет спорту".

Дарэчы, падчас навуковай сесіі была арганізавана выстава дасягненняў навукова-даследчай і навукова-метадычнай работы факультэтаў акадэміі. На ёй былі прадстаўлены падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, метадычныя распрацоўкі і рэкамендацыі па ўсіх дысцыплінах, а стварылі іх навукоўцы кафедр акадэміі за апошнія некалькі гадоў. Многія з "экспанатаў" не толькі выдаюцца для "ўнутранага карыстання", але і запатрабаваны, да прыкладу, у расійскіх ВНУ спартыўна-фізкультурнага профілю.

У межах сесіі адбыліся пасяджэнні пяці секцый: "Спартыўныя гульні і адзінаборствы"; "Цыклічныя і складана-каардынацыйныя віды спорту"; "Масавы спорт, аздараўленчая і фізічная культура, здаровы лад жыцця"; "Медыка-біялагічныя праблемы фізічнага выхавання і спорту"; "Педагагічныя, псіхалагічныя, сацыяльныя, філасофскія, гістарычныя праблемы фізічнага выхавання, спорту і алімпійскага руху". Найбольш цікавым стала абмеркаванне магчымасцей укаранення вынікаў навуковых даследаванняў у вучэбны працэс ці ў практыку падрыхтоўкі спартсменаў высокай кваліфікацыі – няхай гэта арыгінальны трэнажор для павышэння эфектыўнасці падрыхтоўкі баксёраў альбо тэхналогіі камп'ютэрнага мадэлявання спаборніцкай дзейнасці.

Удзельнікі секцыі "Масавы спорт, аздараўленчая і фізічная культура, здаровы лад жыцця" звярнуліся да распрацоўшчыкаў новага варыянта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб фізічнай культуры і спорце", у Міністэрства адукацыі і Міністэрства спорту і турызму з прапановамі наконт укаранення непарыўнай прафесійна арыентаванай фізкультурнай адукацыі ў сістэме: дзіцячыя дашкольныя ўстановы – сярэднія агульнаадукацыйныя школы – ПТВ – ССНУ – ВНУ – прадпрыемствы, установы, арганізацыі.

**Аляксандр АНДРЫЯНАЎ.**

# Носьбіты ідэй Купалы і Коласа

***На факультэце беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка адбылася студэнцкая навукова-практычная канферэнцыя. Яна была прысвечана 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.***

Падобныя мерапрыемствы тут – справа традыцыйная. Факультэцкае кіраўніцтва ацаніла іх карысць для студэнтаў: гэта дапамагае ім вызначыцца з тэмай курсавых работ ці дыпломных праектаў, а калі не, дык проста глыбей авалодаць вучэбнай праграмай.

Прысвячэнне канферэнцыі ўгодкам беларускіх класікаў было зусім не сімвалічнае. Пераважная большасць прадстаўленых дакладаў выканана паводле твораў Я.Купалы і Я.Коласа. А гэта сведчыць пра тое, што сучаснай моладзі цікавыя проза, паэзія, драматургія, створаныя больш за стагоддзе таму, а літаратурная спадчына слаўных юбіляраў актуальная і па сённяшні дзень.

Цікавымі і незвычайнымі падаліся даследаванні з пункту гледжання эканамічнай тэорыі, якія студэнты выканалі пад кіраўніцтвам кандыдата эканамічных навук Г.І.Базылевай. Ужо самі назвы работ гучаць даволі нестандартна: да прыкладу, "Таварна-грашовыя адносіны ў рамане І.Шамякіна "Гандлярка і паэт"", альбо "Тэма прадпрымальніцтва ў п'есе А.Макаёнка "Дыхайце эканомна"".

Падчас канферэнцыі ганаравалі пераможцаў факультэцкага конкурсу студэнцкіх навуковых работ. Імі сталі пяцёра юных навукоўцаў: Алена Рымашэўская, Валянцін Канаплёў, Вольга Чумічова, Дзмітрый Дзятко і Кацярына Альфер.

Па словах Аляксандра Іванавіча Лугоўскага, дэкана факультэта беларускай філалогіі і культуры, такі конкурс праводзіцца ўпершыню, аднак у наступным годзе, магчыма, стане больш папулярным і масавым. Дыпломы і падарункі – зборнік любоўнай лірыкі Янкі Купалы "Явар і Каліна" і "Казкі жыцця" Якуба Коласа – пераможцы атрымалі з рук паэта Навума Гальпяровіча, які таксама віншаваў маладых "праваднікоў і носьбітаў" ідэй Купалы і Коласа.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

# Крывая падлеткавай злачыннасці папаўзла ўгору

**_У красавіку на базе Партызанскага раёна Мінска адбыўся рэспубліканскі семінар "Узаемадзеянне органаў дзяржаўнай улады, устаноў адукацыі і ўсіх зацікаўленых у арганізацыі работы па прафілактыцы злачынстваў і правапарушэнняў сярод непаўналетніх". Удзельнікамі семінара былі прадстаўнікі ўсіх абласцей рэспублікі, міністэрстваў і ведамстваў, якія займаюцца работай з дзецьмі і падлеткамі, кіраўнікі адпаведных гарадскіх і раённых службаў._**

Кожны дзень у крымінальных хроніках краіны гучаць няўмольныя фразы: "Па гарачых слядах затрымана 107 (119, 125....) злачынцаў. Сярод затрыманых 16 (14, 22...) падлеткаў". На працягу апошніх чатырох гадоў мы гаварылі, што падлеткавая злачыннасць у нас стабільна паніжаецца. Так яно і было. Але вынікі першага квартала 2002 года ўжо далі падставу для насцярожанасці: крывая падлеткавай злачыннасці па ўсіх абласцях рэспублікі дала адчувальны скачок угору. З чым гэта звязана, сёння гаварыць яшчэ рана. Магчыма, часткова справа і ў статыстыцы: усе нераскрытыя злачынствы канца мінулага года па меры іх раскрыцця аўтаматычна пераходзяць на гэты год. Але як бы там ні было, праблема падлеткавай злачыннасці – актуальная заўсёды і патрабуе пільнай увагі і асэнсавання з самых розных бакоў. Гэтаму пытанню было прысвечана пасяджэнне круглага стала на другі дзень семінара.

### "О, дайце, дайце нам Закон..." - у самы час усклікнуць інспектарам ІСН

Па словах намесніка старшыні КСН пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь *В.У.Драко*, на сённяшні дзень у краіне дзейнічае 131 нарматыўна-прававы акт, які рэгулюе праваадносіны, звязаныя з непаўналетнімі. У бліжэйшы час плануецца прыняць два законы: Закон аб прафілактыцы правапарушэнняў непаўналетніх і Закон аб мерах прымусовага ўздзеяння ў адносінах да асоб, што злоўжываюць алкаголем і наркотыкамі. Генеральная пракуратура лічыць, што з прыняццем гэтых актаў наша заканадаўства будзе поўнасцю ахопліваць усе аспекты адносін з непаўналетнімі.

Але, нягледзячы на такую заяву, многія спецыялісты МУС, якія займаюцца работай з дзецьмі і падлеткамі, сцвярджаюць, што ім прыходзіцца працаваць амаль што ва ўмовах прававога вакуума. Так, па словах начальніка аддзялення арганізацыі прафілактыкі правапарушэнняў непаўналетніх УУС Брэсцкага аблвыканкама *У.У.Кармаша*, работнікі Інспекцыі па справах непаўналетніх сёння працуюць, карыстаючыся законам 1977 года (аб правах і абавязках работнікаў ІСН). У 70-х гадах мінулага стагоддзя работнікі ІСН, калі ўзнікалі праблемы з падлеткам, накіроўвалі паведамленні па месцы працы бацькоў юнага правапарушальніка – і на прадпрыемствах адпаведна прымаліся пэўныя меры. Нядбайных бацькоў маглі адсунуць назад у чарзе на кватэру, не даць пуцёўку ў дом адпачынку – іншымі словамі, такая сям'я страчвала пэўныя матэрыяльныя льготы. Сёння гэты падыход, зразумела, ужо не працуе. А гэта значыць, неабходны новы закон аб мерах уздзеяння ў адносінах да бацькоў (дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў Генеральную пракуратуру паступае шмат прапаноў, якія тычацца ўдасканалення работы з сем'ямі, і зараз Генеральны пракурор ініцыіруе іх разгляд у Савеце Міністраў). Але яшчэ больш вострая патрэба ёсць у Законе аб прафілактыцы правапарушэнняў непаўналетніх (разгляд праекта якога ўжо ўключаны ў парадак дня чарговага пасяджэння Савета Міністраў). Пры гэтым нам неабходна ўлічваць вопыт Расіі, якая, кідаючыся з адной крайнасці ў другую, два гады назад перастала прымаць у прыёмнікі-размеркавальнікі безнаглядных і дастаўляць іх потым па месцы жыхарства. У выніку кожнае дзіця, якое ў свой час уцякло з дому, уцягнула ў бадзяжніцтва яшчэ як мінімум дваіх равеснікаў – адсюль пайшоў славуты вал бадзяжніцтва і безнагляднасці расійскіх падлеткаў. Што тычыцца нас, дык адказны сакратар КСН Мінскага аблвыканкама *А.М.Сушчэня* папярэджвае, што ў праект Закона аб прафілактыцы правапарушэнняў непаўналетніх закладзена міна запаволенага дзеяння, а менавіта ў п.22 запісана: "У прыёмнік-размеркавальнік накіроўваюцца непаўналетнія, затрыманыя за бадзяжніцтва... па пастанове суда". На думку А.М.Сушчэні, калі Закон будзе прыняты ў такім выглядзе, дык праз 1-2 месяцы прыёмнікі-размеркавальнікі будуць стаяць пустыя, а па нашых вуліцах будуць швэндацца натоўпы малалетніх бадзяжак. Сёння ў такія прыёмнікі размяшчаюць па пастанове начальніка міліцыі альбо работніка КСН, і гэты механізм, на думку многіх, у нас добра адпрацаваны і нядрэнна сябе зарэкамендаваў. ...Разам з тым нельга не адзначыць, што накіроўванне спраў па ўсіх відах правапарушэнняў падлеткаў у суды – гэта крок у бок ювенальнай юстыцыі. І калі мы хочам называцца цывілізаванай краінай, нам неабходна таксама рухацца ў гэтым кірунку і ствараць адпаведную заканадаўчую базу.

### Каб трапіць у спецПТВ, трэба мець здароўе касманаўта

З кожным годам павялічваецца колькасць правапарушэнняў, віноўнікамі якіх з'яўляюцца падлеткі з псіхафізічнымі адхіленнямі. Прычым такія правапарушэнні і злачынствы здзяйсняюцца, як правіла, з асаблівай жорсткасцю і выклікаюць значны грамадскі рэзананс. Так, калі ў Віцебскай вобласці прааналізавалі характары тых падлеткаў, якія здзейснілі забойствы, дык аказалася, што звыш 50 працэнтаў іх маюць адхіленні ў псіхічным развіцці. Колькасць такіх дзяцей з кожным годам расце, і гэта ставіць перад нашым грамадствам яшчэ адну праблему: што рабіць з такімі падлеткамі, калі яны здзейснілі процізаконныя дзеянні? Парадокс, але часта ў спецПТВ іх адправіць нельга па медыцынскіх паказаннях. Такія падлеткі, як правіла, кураць, злоўжываюць алкаголем, а то і наркатычнымі рэчывамі і, адпаведна, не вызначаюцца багатырскім здароўем. Між тым медыцынскі адбор (правілы якога былі прыняты яшчэ ў 1989 годзе) у спецустановы для падлеткаў даволі жорсткі. СпецПТВ, як правіла, не могуць забяспечыць лячэнне падлетку з астмай альбо язвай страўніка, ды і іншымі шматлікімі захворваннямі. У выніку такія дзеці страчваюць хоць мінімальны, але ўсё ж такі шанц адносна безгвалтоўнага выпраўлення, а праз 1–2 гады, стаўшы паўналетнімі, трапляюць у калонію, куды бяруць усіх, не зважаючы на здароўе.

Да ўсяго іншага, існуючыя на сёння ў рэспубліцы спецПТВ перагружаныя. Як адзначыў начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі *Г.А.Бутрым*, спецыялісты шмат гавораць аб тым, што ў краіне не хапае спецшкол і спецПТВ, але спробы Міністэрства адукацыі адкрыць чарговую такую ўстанову не знаходзяць, мякка кажучы, разумення ў мясцовых улад. Так, Міністэрства адукацыі ўжо на працягу чатырох гадоў спрабуе адкрыць у Гродзенскай вобласці спецыяльную лячэбна-прафілактычную ўстанову менавіта для той катэгорыі дзяцей-правапарушальнікаў, пра якіх ішла гаворка вышэй. Рашэнне аб яе адкрыцці было вынесена дзяржаўнай Камісіяй па папярэджанні злачыннасці і наркаманіі, але – "воз и ныне там": вобласць адбіваецца ад гэтага з усёй моцы. У бліжэйшы час, па словах Г.А.Бутрыма, гэтае пытанне будзе вынесена на самы высокі ўзровень, з запрашэннем губернатара Гродзенскай вобласці.

У рэспубліцы таксама наспела неабходнасць адкрыцця спецыяльнай навучальнай установы для падлеткаў, якія злоўжываюць наркотыкамі.

### Кадры вырашаюць усё. Іх недахоп - таксама

У Гомельскай вобласці ў Інспекцыі па справах непаўналетніх 10 працэнтаў вакансій – свабодныя, і запоўніць іх да канца гэтага года не ўяўляецца магчымым. У двух раёнах – Чачэрскім і Кастрычніцкім – наогул няма супрацоўнікаў ІСН. Сапраўды, праца гэтая карпатлівая і патрабуе шмат высілкаў. Яна не вельмі прэстыжная. Да таго ж, усё яшчэ няма эфектыўнай прававой базы, якая б рэгулявала дзейнасць інспектара ІСН. Супрацоўнікаў ІСН часта адрываюць ад выканання непасрэдных абавязкаў – па падліках, сваёй непасрэднай работай яны займаюцца толькі 50-60 працэнтаў працоўнага часу... Прычын шмат, а вынік адзін – недахоп кадраў. Не хапае ў інспекцыі па справах непаўналетніх і інспектараў-псіхолагаў, якія сёння патрэбны як паветра, – але ўжо па іншай прычыне. Два гады таму назад такая пасада нарэшце Загадам Міністра МУС была прадугледжана, але ствараецца яна за кошт мясцовага бюджэту. З-за недахопу бюджэтных сродкаў усе хадайніцтвы ІСН у мясцовыя выканкамы атрымліваюць адмову.

Уведзеныя ў 1998 годзе Міністэрствам адукацыі пасады сацыяльнага педагога і псіхолага ў школах аказалі ў пэўнай меры ўплыў на зніжэнне падлеткавай злачыннасці дзякуючы індывідуальнаму падыходу да дзяцей групы рызыкі, рабоце з сям'ёй і соцыумам. Але не ўсе рэгіёны выкарысталі ў поўнай меры гэтую магчымасць. У Магілёўскай вобласці з-за шэрагу прычын, перш за ўсё фінансавых, гэтыя вакансіі аказаліся не занятымі і дагэтуль. І калі зараз паўстала пытанне эканоміі сродкаў, у першую чаргу сталі скарачаць незапоўненыя вакансіі. Сёння Магілёўшчына канчаткова можа страціць магчымасць паўплываць на наяўную сітуацыю са злачыннасцю з дапамогай псіхолагаў і сацыяльных педагогаў.

...Нельга скідваць з рахунку і яшчэ адзін аспект кадравай палітыкі – падрыхтоўку гэтых самых кадраў. Патрабаванні маладзёжнай аўдыторыі зараз вельмі высокія. І калі на гутарку ці сустрэчу з ёю прыйдзе не зусім добра падрыхтаваны спецыяліст, гэта можа прынесці не менш шкоды, чым у выпадку, калі такі спецыяліст не прыйдзе зусім.

***

Наогул, на стан спраў з падлеткавай злачыннасцю аказвае ўплыў вельмі шмат фактараў. Гэта і алкагалізацыя насельніцтва, асабліва ў вёсках, і міграцыя (як правіла, мігруюць часцей за ўсё не вельмі добранадзейныя сем'і) і эканамічнае становішча людзей, і многае іншае. Нават такая, здавалася б, прагрэсіўная з'ява як з'яўленне Інтэрнет-кафэ і клубаў камп'ютэрных гульняў становіцца дадатковым фактарам рызыкі, бо, як высветлілася, падлеткі ў большасці сваёй гуляюць выключна ў такія гульні, якія праграміруюць псіхіку на гвалт і жорсткасць.

І апошняе: у бліжэйшы час нашу школу чакае новаўвядзенне, якое, па прагнозах, немінуча адаб'ецца на дзіцячай злачыннасці – пяцідзённае навучанне. Як дасціпна заўважыў адзін з удзельнікаў семінара, цяпер падлеткі будуць мець магчымасць рабаваць дачы не адзін дзень у тыдзень, а два. І гэта на самай справе будзе так, калі мы не арганізуем вольны час дзяцей у суботу. Трэба адзначыць, Міністэрства адукацыі разумее ўсю сур'ёзнасць гэтай праблемы і ўжо сёння робіць пэўныя захады для таго, каб яе нейтралізаваць. Так, у самы бліжэйшы час чакаецца новаўвядзенні ў аплаце класнага кіраўніцтва. А шосты, "непрацоўны", дзень плануецца насыціць мерапрыемствамі, накіраванымі на развіццё асобы школьніка, працаваць з сям'ёй, наладжваць кантакты школы і пазашкольных устаноў з соцыумам.

**Святлана СУБОЦІНА.**



# "Кветкі жыцця" з вакзалаў, падвалаў, люкаў

**_Толькі за I квартал 2002 года Інспекцый па справах непаўналетніх Мінскага АУС на транспарце было затрымана 220 дзяцей і падлеткаў. Хацелася б напісаць, што ў кожнага з іх - свая гісторыя, але гэта было б няпраўдай. Бо гісторыі многіх з іх падобныя, як дзве кроплі вады..._**

**_Што стаіць за такой "охотой к перемене мест"? Псіхічныя адхіленні? Жорсткае абыходжанне бацькоў? Жаданне прыгод?_**

Дзеля справядлівасці трэба зазначыць, што не ўсе гэтыя дзеці з'яўляюцца малалетнімі бадзяжкамі. Ёсць сярод іх і такія, якія заблудзіліся і маюць патрэбу ў дапамозе дарослых, а таксама непаўналетнія, якія здзейснілі на чыгуначнай дарозе розныя кшталту правапарушэнні і злачынствы. "Уцекачы" сярод затрыманых складаюць круглую лічбу 45 (38 уцяклі з сем'яў, 7 - са школ-інтэрнатаў). Што тычыцца геаграфіі іх падарожжаў, мяркуйце самі: сярод затрыманых сустракаюцца дзеці практычна з усіх раёнаў рэспублікі, а таксама з Украіны, Расіі, Малдовы, Закаўказзя... Прычыны, чаму дзеці ўцякаюць, часцей за ўсё простыя і да болю знаёмыя: галеча, беспрабуднае п'янства бацькоў альбо наогул іх адсутнасць, жорсткае абыходжанне з боку дарослых, пастаянныя пабоі... Ды і ў дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах многім жывецца несалодка. Прыкладна 10 працэнтаў уцекачоў - дзеці з рознымі псіхічнымі адхіленнямі і дэвіянтнымі паводзінамі.

Галаўным болем для нашых ахоўнікаў правапарадку з'яўляюцца "сем'і-бамжы" - каўказскія, малдаўскія, украінскія, цыганскія, якія самавольна пераехалі да нас і так і не змаглі нідзе асталявацца. Яны не маюць ні віду на жыхарства, ні, як зразумела з вышэйсказанага, і самога месца жыхарства. Дарослыя нідзе не працуюць, дзеці нідзе не вучацца. Адзінаццацігадовага хлопчыка-малдаваніна з адной з такіх сем'яў, якая жыве ў Асіповіцкім раёне літаральна на чыгуначнай станцыі, ледзь не кожныя 4-5 дзён здымаюць з электрычкі: ён ходзіць па вагонах з гармонікам і просіць на кавалак хлеба. Па правілах, такія сем'і трэба было б дэпартаваць, але гэтая працэдура каштуе вельмі дорага, і таму на справе часам бывае так, што міліцыя садзіць такую сям'ю на электрычку на Смаленск і раіць адправіцца куды-небудзь углыб Расіі...

Бывае, што "ветер дальних странствий" прываблівае падлеткаў і з нармальных сем'яў. Так прыязджаюць у Мінск за прыгодамі дзеці з сельскай глыбінкі: пабадзяцца па сталічных вуліцах, на свае вочы пабачыць так упарта рэкламаваны па тэлевізары Макдональдс, паглядзець ноччу на заліты святлом праспект Скарыны і новы чыгуначны вакзал... Начуюць у падвалах, люках, паддашніках, у закінутых іржавых машынах на звалках... Потым, вярнуўшыся (з дапамогай міліцыі) дахаты, узахлёб расказваюць сябрам аб тым, дзе былі і што бачылі. А ў наступны раз і навічкоў з сабой прыхопяць. Маршруты ж цяпер ужо разведаныя. Амаль палову затрыманых бадзяжак складаюць дзяўчынкі. І, што цікава, менавіта яны найбольш актыўна "вярбуюць" сваіх сяброўак і сяброў у новыя падарожжы, спакушаючы аповедамі пра цікавыя ўражанні і знаёмствы.

Зразумела, усе дзеці, затрыманыя за бадзяжніцтва, складаюць групу рызыкі. Па словах начальніка ІСН пры Мінскім АУС на транспарце *Алега Віктаравіча Гімельрэйха*, у адносінах да іх можа быць учынена злачынства, яны самі больш схільныя да здзяйснення розных проціпраўных дзеянняў, і, акрамя ўсяго іншага, з імі нярэдка адбываюцца няшчасныя выпадкі. Таму калі работнік міліцыі заўважыць нямытае, яўна недагледжанае дзіця альбо непаўналетняга ў позні час без суправаджэння дарослага, ён абавязкова высвеліць усе абставіны, і калі стане зразумела, што гэтае дзіця ўцякло з дому, яго даставяць у Інспекцыю па справах непаўналетніх пры УУС на транспарце. А ўжо адтуль, па загаду начальніка ІСН альбо аператыўнага дзяжурнага (у начны час), накіруюць у прыёмнік-размеркавальнік для непаўналетніх.

...Як гавораць, усё пазнаецца ў параўнанні. Калі паглядзець на Расію, сітуацыя з малалетнімі бадзяжкамі ў нашай краіне можа падацца проста-такі ідылічнай. Нашых суседзяў літаральна захліснуў вал безнагляднасці. У Маскве нават з'явілася новае азначэнне для многіх з такіх дзяцей - "негры". Не ў сэнсе расавай прыналежнасці, а ад слова "неграмотные". Гэта дзеці 13-14 гадоў, якія ніколі не вучыліся ў школе і не ўмеюць ні чытаць, ні пісаць. Па словах *Алега Віктаравіча*, рэзкі ўсплёск дзіцячай безнагляднасці ў Маскве выкліканы тым, што там некалькі гадоў таму адмовіліся ад прыёмнікаў-размеркавальнікаў для ўсіх катэгорый непаўналетніх і замест іх адкрылі Цэнтры часовай ізаляцыі непаўналетніх правапарушальнікаў. Такім чынам, тая катэгорыя дзяцей, якія не здзейснілі ніякіх правапарушэнняў, але знаходзяцца без нагляду бацькоў, засталася "за бортам". І малалетнія беспрытульнікі хутка запаланілі рынкі, вакзалы, метро...

***

Дастаўляюцца ў ІСН на чыгуначным транспарце і непаўналетнія, якія здзейснілі на чыгунцы правапарушэнні і злачынствы. Часцей за ўсё сярод правапарушэнняў фігуруюць біццё шкла ў паяздах, пашкоджанні сродкаў сігналізацыі і сувязі, падкладванне на чыгуначныя пуці староннiх прадметаў, крадзяжы. Пастаянай праблемай з'яўляюцца футбольныя фанаты, якія вяртаюцца на электрычках дахаты пасля матча. Бывае, міліцыянеры затрымліваюць хлопцаў, якія займаюцца графіці - размалёўваюць вагоны, сцены, гаражы. Дзяўчынкі трапляюць у поле зроку транспартнай міліцыі з-за прастытуцыі. А яшчэ значную лічбу затрыманых падлеткаў складаюць тыя, каго прыцягваюць да адказнасці за знаходжанне ў нецвярозым стане. Прычым лічбы гавораць, што ў апошнія гады назіраецца тэндэнцыя да ўсё большага "амаладжэння" п'янства - нашы дзеці пачынаюць піць ужо з 10-11 гадоў. Спачатку піва. Як быццам бы лёгкі, бясшкодны напой. Але для растучага арганізма гэта немалая алкагольная нагрузка. Прычым, як ні парадаксальна, работнік міліцыі нават не мае права затрымаць дзіця, якое п'е піва, бо піва афіцыйна не адносіцца да спіртных напояў. Прыцягнуць падлетка да адказнасці ён можа толькі пасля, калі ў таго наступіць стан алкагольнага ап'янення.

...А нядаўна ў інспекцыю прывялі адразу чатырох падлеткаў, якія сядзелі ля чыгуначнага насыпу з цэлафанавымі пакетамі на галовах і нюхалі клей. Гавораць, яго нюхаюць амаль усе бадзяжкі. І што з таго, што гэта самая сапраўдная атрута для дзіцячага мозга, якая бязлітасна разбурае арганізм і ўсяго за пару гадоў прыводзіць да інваліднасці. Яны аб гэтым не ведаюць - і ведаць не хочуць. Між іншым, медыкі гавораць, што такім чынам "выкарыстаны" клей дапамагае пераадолець стрэсы. Іх хапае сёння ўсім дзецям. Але калі ў тых, хто жыве ў нармальнай, прыстойнай сям'і, ёсць магчымасць паплакацца маме альбо бацьку ці пераключыцца на штосьці іншае, дык вулічным дзецям часта застаецца толькі клей...

**Святлана СУБОЦІНА.**

# Віртуальная агрэсія,
## альбо Занадта сапраўдная вайнушка

На маніторы майго хатняга камп'ютэра – чарговая гульня. Трохмерная выява залы для баёў. Сэнс гульні – забіваць. Паўсюль падсцерагаюць ворагі, таму ўсё пабудавана на прынцыпе: альбо ты, альбо цябе... Цікавы ход стваральнікаў гульні: героя, якім ты кіруеш, на экране няма, гульца прадстаўляе толькі зброя, якую як быццам трымаеш у руках, а таму дзеянне надзвычай рэальнае. Пасля хвіліны прагляду мне робіцца жудасна. Пасярод залы абяззброены чалавек, ён крычыць: "Не забівай!", – але... лаянка, крывавыя плямы.

Гульні для мяне заўсёды былі сімвалам дзяцінства. Казакі-разбойнікі, лялькі, каляровыя кубікі, казачныя істоты... Любімыя цацкі ўсё робяць па загаду маленькага гаспадара. Расце чалавек, разам з ім "растуць", мяняюцца і яны. Развіваецца чалавек, і, вядома, развіваюцца цацкі. Але ці не здаецца вам, што мы падчас кідаемся ў крайнасці? Прыпамінаю сваё, здаецца, зусім нядаўняе дзяцінства і дзіву даюся, як ці то бяздумна, ці то, можа, "занадта прадумана" мы ставімся да стварэння цацак: ад бяспорага галыша да сексапільнай Барбі, ад пластмасавага аўтамата, на якім нават курок быў нерухомым, да жорсткіх камп'ютэрных гульняў і прыставак, дзе вайнушка занадта сапраўдная.

Задумайцеся, з якімі цацкамі гуляюць вашы дзеці. Што гэта: спецыяльна створанае выйсце для агрэсіі, каб яна не знаходзіла прымянення ў жыцці, альбо яе свядомая ці несвядомая культывацыя? Добра яшчэ, калі такая камп'ютэрная гульня мае такую-сякую інтэлектуальную аснову, напрыклад, стварэнне і абарону сваёй дзяржавы, пэўныя стратэгічныя разлікі, узвядзенне бібліятэк, храмаў, гаспадарчых будынкаў... Калі ў гульні на прыстаўцы ваша дзіця страляе па качках, а не па бездапаможнаму мітуслівому чалавечку. А калі не? Калі мэта адна – забіваць людзей ці то дзеля задавальнення, ці то проста ў спартыўным запале? Проста здзіўляе, як падобныя рэчы могуць быць у свабодным продажы, не кажучы ўжо аб тым, што некаторыя бацькі самі купляюць такія цацкі сваім дзецям.

Нехта скажа, гэта проста гульня, не больш і не менш... Так, гульня. Але менавіта на ёй выхоўваецца ваша дзіця, і не трэба суцяшаць сябе думкай, што яна ў любым выпадку ўсяго толькі віртуальная рэальнасць. Існуюць ужо выпадкі, калі віртуальная гульня абярнулася ў нечым жыцці трагедыяй: падлетак з Гомеля, "набіўшы руку" у камп'ютэрных забойствах, вырашыў паспрабаваць, ці атрымаецца ў яго на самай справе... Хто яго ведае, ці не ўчыніць заўтра падобнага і ваша дзіця, ці не падсцерагае бяда вас і вашых блізкіх з боку "запраграмаванага" падлетка? Магчыма, і маюць рацыю тыя, хто сцвярджае, што не бывае нічога выпадковага: ва ўсім ёсць свая прычына і свой пачатак.

Псіхолагі лічаць агрэсію паводзінамі (вербальнымі або фізічнымі), накіраванымі на нанясенне шкоды або знішчэнне. Яна можа быць натуральнай рэакцыяй на непрыемныя падзеі, але трэніроўка здольная змяніць такую рэакцыю. Агрэсіўнасць з большай верагоднасцю ўзнікае ў выпадках, у якіх, як паказваюць назіранні спецыялістаў, яна выгадная. Дзеці, агрэсіўнасць якіх сапраўды палохае іншых дзяцей, могуць стаць яшчэ больш агрэсіўнымі. А яшчэ такую манеру паводзін можна набыць шляхам прамога заахвочвання. Напрыклад, жывёлы, якія паспяхова здабывалі ў барацьбе ежу альбо самку, рабіліся больш злоснымі. Часам такая ж рэакцыя ўзнікае і ў чалавека. Паспрабуйце цяпер правесці паралель з камп'ютэрнай гульнёй. Што адчувае дзіця, калі крывавая бойка заканчваецца для яго перамогай?

Агрэсіўнасць фарміруецца таксама шляхам назірання. Напэўна, вы і самі заўважалі, як дзеці імітуюць агрэсіўныя паводзіны бацькоў, але бацькі, на жаль, не адзіны ўзор для пераймання. Сцэны гвалту даступныя на экране таго ж тэлевізара. Ці не заахвочвае прагляд тэлевізійнай і камп'ютэрнай (у якой, да таго ж, яшчэ прымаецца і ўдзел) жорсткасці здзяйсняць у жыцці агрэсіўныя акты? А, можа, тут, хутчэй, існуе адваротная сувязь: менавіта жорсткія дзеці аддаюць перавагу прагляду агрэсіўных сцэн? Для таго каб адказаць на гэтае пытанне, навукоўцы правялі шэраг супастаўленчых і эксперыментальных даследаванняў. Каб выявіць прычыннасць, эксперыментатары паказвалі на працягу пэўнага часу адным адвольна абраным гледачам сцэны гвалту, а другім – забаўляльныя праграмы без яго. Ці прымушае людзей прагляд сцэн забойстваў рэагаваць з большай жорсткасцю ў раздражнёным стане? Большасць навукоўцаў прыйшла да высновы, што прымушае. Эфект агрэсіі заснаваны на сукупнасці фактараў – узбуджэнні, атрыманым ад сцэн жорсткасці, узмацненні звязаных з гвалтам ідэй, размыванні забарон і імітацыі. Адна з груп даследчыкаў назірала сямікратны рост жорсткасці ў гульнях дзяцей пасля прагляду падобных актаў агрэсіі. Прычым дзеянні хлопчыкаў вельмі часта дакладна імітавалі удары нагой у палёце з каратэ і іншыя, якія выкарыстоўваюцца ў камп'ютэрных і прыставачных гульнях.

Віртуальны свет гульні, дзе агрэсія значна перавышае сяброўства, таксама можа паўплываць і на наш светапогляд у адносінах да рэальнага свету. Свет уяўляецца актыўным гульцам больш небяспечным. Працяглае захапленне крывавымі сцэнамі ў гульні прытупляе пачуцці і ўдзельнікаў, і проста гледачоў. Яны робяцца больш бяздушнымі і чэрствымі, калі пазней назіраюць падобную сцэну ў жыцці.

Ёсць у майго роздуму і другі бок. Ужо выказвалася думка аб тым, што нельга кідацца ў крайнасці, і таму я зусім не заклікаю забараніць усе цацкі, якія так ці інакш нагадваюць дзецям аб жорсткасці, і прапанаваць хлопчыкам пагуляць у "дочки-матери", хаця, можа, і неблагая ідэя. У любым выпадку мужчына павінен быць мужчынам: смелым, мужным, моцным, каб ён мог абараніць сябе і сваіх блізкіх. Таму добра ўсё выкарыстоўваць у меру. Неабходна падысці да гэтага пытання з асаблівай увагай, бо што можа быць больш важным, чым выхаванне нашых дзяцей. Спадзяюся аднадумцы ў мяне знойдуцца... Дасылайце вашы меркаванні – нам заўсёды цікава ведаць пункт погляду нашых чытачоў.

**Наталля АЛЁХІНА.**

Вопыт

# Дэкларацыя бацькоў дапамагае дзецям

**_Сярэдняя школа №11 Жлобіна лічыцца адной з самых вялікіх у раённым цэнтры: больш як дзве тысячы вучняў спасцігаюць азы навук у гэтай установе. Вядома, кожны з іх па-рознаму ставіцца да вучобы, мае свае схільнасці, часам і адмоўнага характару. Так, двое з цяперашніх выхаванцаў стаяць на ўліку ў раённай інспекцыі па справах непаўналетніх. І хаця няма ў гэтым асабістай віны педагогаў школы, у калектыве ўсё-такі лічаць, што не бывае непапраўных падлеткаў, і ў школы ёсць шансы, прычым неблагія, істотна ўплываць на паводзіны такіх дзяцей._**

Работай з вучнямі, схільнымі да правапарушэнняў, кіруе намеснік дырэктара школы па выхаваўчай рабоце Ганна Мікалаўена Гараўцова. Сваімі першымі памочнікамі ў гэтай справе яна называе псіхолага Святлану Валер'еўну Рагавую, сацыяльных педагогаў Вольгу Генадзьеўну Карандзееву і Жанну Эдуардаўну Маліноўскую. У спіс памочнікаў Ганна Мікалаеўна ўключае і творчых класных кіраўнікоў, а таксама ініцыятыўную групу бацькоў. Выхаваннем у школе займаюцца не толькі педагогі, але і грамадскія фарміраванні, створаныя пры прадпрыемствах, установах, раённых службах. Прычым уся гэтая работа вядзецца мэтанакіравана, на аснове ўласнай праграмы па працы з вучнямі, схільнымі да правапарушэнняў.

Стваралася праграма таксама ўсім калектывам школы. Пачалі са збору банка даных на ўсіх вучняў школы. Класныя кіраўнікі на працягу навучальнага года вывучалі ўзровень выхаванасці дзяцей, складалі індывідуальна-дыягнастычную карту дынамікі развіцця кожнага школьніка. Сацыяльныя педагогі праводзілі анкетаванне вучняў сярэдняга і старшага звяна па такіх пытаннях, як сямейны мікраклімат, стаўленне да курэння, правапарушэнняў, здаровага ладу жыцця, наяўнасць ідэалаў. Было праведзена і анкетаванне бацькоў. Усе гэтыя матэрыялы і ляглі ў аснову праграмы, якая мае рэальны характар і ўлічвае асаблівасці развіцця вучняў школы.

Як жа яна "працуе", гэтая праграма? Па-першае, пытанні дысцыпліны і правапарадку заслухоўваюцца асобна на педагагічнай нарадзе, дзе распрацоўваюцца канкрэтныя меры па пераадоленню негатыўных з'яў. Па рашэнню гэтага вышэйшага педагагічнага органа на прадпрыемствы і ва ўстановы горада рассылаюцца пісьмы-падзякі, пісьмы-трывогі. Ганна Мікалаеўна сочыць за тым, каб падлеткі, схільныя да правапарушэнняў, былі далучаны да работы тэхнічных і творчых гурткоў, спартыўных секцый. З гэтай катэгорыяй вучняў працуюць класныя кіраўнікі, сацыяльныя педагогі. Каля дзесятка падлеткаў знаходзіцца на ўнутрышкольным кантролі. У школе паспяхова дзейнічае аб'яднанне "Саюз школьнікаў-актывістаў" (назву прыдумалі самі вучні). Пры гэтым аб'яднанні працуюць "міністэрствы" ўнутраных спраў і юстыцыі, якія не даюць спуску парушальнікам дысцыпліны.

На кожным бацькоўскім сходзе, якія праводзяцца не радзей чым адзін раз у чвэрць, разглядаецца пытанне правапарадку і дысцыпліны. Класныя кіраўнікі запрашаюць на гэтыя сходы супрацоўнікаў раённай інспекцыі па справах непаўналетніх, урачанарколага, прадстаўнікоў саветаў садзейнічання сям'і і школе. На адным з агульных бацькоўскіх сходаў была абмеркавана і прынята "Дэкларацыя бацькоў сярэдняй школы №11", у якой вызначаны правы, абавязкі і меры адказнасці за недахопы ў выхаванні дзяцей мам і татаў. Гэты дакумент з'яўляецца своеасаблівым заканадаўчым актам для ўсіх, хто так або інакш звязаны з працэсам выхавання падрастаючага пакалення.

Добрай падмогай у справе прафілактыкі правапарушэнняў з'яўляецца і дзейнасць школьнай сацыяльна-псіхалагічнай службы "Давер". Падлеткі ведаюць тэлефон "гарачай лініі", ахвотна дзеляцца з псіхолагамі сваімі праблемамі, бедамі і радасцямі.

Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце сярэдняй школы №11 Ганна Мікалаеўна Гараўцова з аптымізмам глядзіць у будучыню – лічыць, што калі працаваць творча і з душой, можна вырашыць любую выхаваўчую праблему.

**Аляксандр ІВАНЬКОЎ,**
**метадыст Жлобінскага раённага аддзела адукацыі.**

Меркаванне

# Першы крок. Ён самы цяжкі

Чаму дзеці становяцца праблемнымі? Ад некампетэнтнасці бацькоў і педагогаў. Ад недахопу ўвагі і любові, клопату і цеплыні. Такое дзіця не можа лёгка і свабодна кантактаваць з дарослымі і равеснікамі. А проціпастаўляць сябе грамадству можа, прынамсі, ужо і спрабуе. І для яго гэта лягчэй, чым падлетку з добрай сям'і. Ён ужо становіцца складаным для выхавання: паўтарае пачутыя дома нецэнзурныя словы спачатку на вуліцы, потым у калідоры школы, пасля ў класе прама на ўроку; плюе спачатку ў дварах, потым на школе, а праз нейкі час і ў твар чалавеку. І так, з дня ў дзень, паступова становіцца сацыяльна небяспечным. Наступствы такіх паводзін аказваюцца ўсё больш сур'ёзнымі, у лепшым выпадку гэта заканчваецца Інспекцыяй па справах непаўналетніх.

Дрэнна, калі дзіцяці вешаюць ярлык непапраўнага. А такога – самі ведаеце што выправіць. Што ж рабіць? Лічу, першае, з чаго трэба пачаць – гэта з асветы бацькоў.

Цудоўна, што кожную нядзелю раніцай людзі могуць слухаць па радыё казань ксяндза. Але, на маю думку, не менш карыснай была б і невялікая радыёперадача на выхаваўчую тэму, якая б вучыла бацькоў правільным узаемаадносінам з дзецьмі. Гэта хоць і паступова, але абавязкова зменіць свядомасць дарослых людзей, дапаможа ім зразумець, што нельга раніць сваіх дзяцей ні зняважлівымі словамі, ні пабоямі, ні прыніжэннямі.

Думаю, што калі раніцай або вечарам у самы папулярны час будзе ісці якая-небудзь добрая, яркая, прадуманая радыёперадача, гэта з часам абавязкова дасць плён і паступова навучыць маленькіх і дарослых людзей культуры ўзаемін. І вядучым не павінен быць кампетэнтны, паважаны чалавек.

Такога кшталту перадача патрэбна і на тэлебачанні. Кожны яе выпуск можна прысвяціць пэўнай выхаваўчай праблеме. Толькі без залішняй павучальнасці і крывадушнасці.

Не пашкодзіць таксама і выпуск тэлевізійных ролікаў на тэму выхавання, якія адносяцца да так званай сацыяльнай рэкламы. Бо тэлебачанне з'яўляецца найбольш эфектыўным сродкам уздзеяння на свядомасць людзей і падштурхоўвае іх да тых або іншых учынкаў. На маю думку, беларускія спецыялісты ў галіне кінематаграфіі і рэкламы выдатна справіліся б з такім сацыяльным заказам.

І, безумоўна, ёсць яшчэ і чараўнікі, якія могуць спыніць незваротнасць працэсу, вярнуць грамадству паўнацэннага чалавека – педагогі, кампетэнтныя, вопытныя, шчыра адданыя сваёй справе. Іх, на жаль, нямнога. Але яны маглі б вучыць іншых настаўнікаў і выхавальнікаў, перадаваць ім свае веды і вопыт. Урокі, класныя гадзіны, індывідуальная і пазакласная работа такіх педагогаў павінны вывучацца спецыялістамі, раскладвацца па "палічках" з адпаведнымі каментарыямі, каб стаць даступнымі для іншых настаўнікаў, выхавальнікаў.

Вельмі важна, каб настаўнікі і выхавальнікі зразумелі, што вырашыць гэтую праблему лягчэй у супрацоўніцтве з псіхолагам, сацыяльным педагогам, бацькамі – усімі зацікаўленымі ў лёсе дзяцей людзьмі.

Галоўнае – не баяцца зрабіць крок насустрач дзіцяці, бо яно гэтага так чакае!

**Таццяна ДАКУЧАЕВА.**

